**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 47 (815) 19 лістапада 2015 года. Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета
vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае



**Дажджлівы лістапад у Глыбокім.**
*Фота Ул. Скрабатуна.*











## Грамадзяне Беларусі пры наведванні Францыі з 13 лістапада па 13 снежня павінны будуць прад'яўляць дакументы, якія дазваляюць ім знаходжанне ў краіне

**З 13 лістапада па 13 снежня Францыя аднаўляе кантроль на сваіх межах у сувязі з правядзеннем канферэнцыі па клімаце ў Парыжы.**

У сувязі са шматлікімі званкамі прэс-служба пасольства Францыі ў Беларусі тлумачыць, што гэтыя меры ўводзяцца для таго, каб канферэнцыя прайшла паспяхова, "у спакойнай і бяспечнай атмасферы".

Пры ўездзе ў Францыю беларускія грамадзяне павінны будуць прад'яўляць пасведчанні або дакументы, якія дазваляюць ім перамяшчацца або знаходзіцца ў краіне (шэнгенская віза або дзейная нацыянальная французская віза, страхоўка і дакумент, які пацвярджае месца пражывання, у выпадку прыватнага запрашэння).

"Пры наяўнасці гэтых дакументаў усе грамадзяне, якія маюць шэнгенскую візу або дзейную нацыянальную французскую візу, выдадзеную пасольствам Францыі ў Беларусі або іншым пасольствам, якое прымяняе Шэнгенскае пагадненне, могуць уязджаць на тэрыторыю Францыі і ў зону дзеяння Шэнгенскага пагаднення", – гаворыцца ў паведамленні.

*Таццяна Каравянкова, БелаПАН*















ISSN 2077-8023



## Талачынскі раён

# Клубні экстра-класу

■ Станіслаў Раманчук.

**І ў спецыфічных эканамічных умовах Беларусі пры падрыхтаваных кадрах і адпаведным жаданні можна мець выдатныя паказчыкі на рынку.**

Да ліку такіх прадпрыемстваў адносіцца РУП "Талачынскі кансервавы завод", які быў пабудаваны і пачаў дзейнічаць яшчэ ў 1906 годзе, як польская вінакурня паноў Газдзіцкіх. Сёлета завадчане атрымалі рэкордны ў айчыннай гісторыі ўраджай бульбы па 535 цэнтнераў з кожнага гектара. Завод вырошчваў "другі хлеб" на плошчы 900 гектараў і даставіў на свае бульбасховішчы больш 48 тысяч тон клубняў лепшых заходніх селекцый. Больш паловы новага ўраджаю ўжо рэалізавалі, у пік адгрузак штодзень адпраўлялі айчынным спажыўцам і ў Расію па 11-12 фур. Зімой і пад вясну продаж бульбы яшчэ больш актывізуецца, але і зараз тут фасуюць і адгружаюць трыццаць работнікаў кожны дзень да 5 фур. Бульбу нямецкай селекцыі "гала" фасуюць у малыя сеткі і, выключна, вымытую. Дарэчы, гэта прадпрыемства мае звыш 7 тысяч гектараў зямлі і 528 гектараў садоў для вырошчвання яблыкаў, груш, маліны, агрэсту, чорнай і чырвонай смародзіны. Акрамя гэтага на заводзе вырабляць штогод да тысячы і болей тон крахмалу, большая частка якога рэалізуецца на экспарт. Апошнім часам завадчане пачалі разліў шасці найменняў вінаградных сталовых він да 60 тысяч дэкалітраў у год. Вытворчыя магутнасці дазваляюць таксама выпускаць штогод і пладова-ягадныя віны палепшанай якасці да 810 тысяч дал. Талачынскія віны, сапраўды, вельмі высокай якасці, бо яны атрымалі больш 50 залатых медалёў спецыялізаваных міжнародных выстаў-дэгустацый.

## Пастаўскі раён

# Ёсць кадры – будзе і аддача

■ Кастусь Александровіч

**Адна з праблем глыбінкі – недахоп кваліфікаваных спецыялістаў у важнейшых сферах жыцця–дзейнасці.**

Адзін з самых аддаленых ад абласнога цэнтра Пастаўскі раён на здзіўленне добра ўкамплектаваны патрэбнымі кадрамі, хоць мае самую разгалінаваную ў вобласці сетку ўстаноў аховы здароўя. На Пастаўшчыне акрамя райбальніцы лечаць людзей яшчэ 5 бальніц, дзве паліклінікі, 8 урачэбных амбулаторый, 27 ФАПаў і тры аддзяленні "хуткай дапамогі, і ўсе яны ўкамплектаваны патрэбнымі ўрачамі. У штаце зараз працуюць 99 спецыялістаў, з якіх больш паловы – мясцовыя ўраджэнцы. Аб медыках у раёне клапоцяцца, сёлета ім выдзелілі дзве новыя службовыя кватэры і ў райцэнтр пераехалі восенню жыць і працаваць з іншых гарадоў падрыхтаваныя і вопытныя дактары. Акрамя гэтага з паўсотні мясцовых маладых накіравалі з раёна вучыцца ў медыцынскія ВНУ, якія з цягам часу вернуцца на радзіму. Толькі на ўмацаванне матэрыяльна-тэхнічнай базы медыцыны апошнім часам уклалі 14 млрд. рублёў. Услед за аддзяленнем гемадыялізу ў Пастаўскай ЦРБ запрацавала першае ў краіне наркалагічнае аддзяленне, а ў кастрычніку адкрыўся і цэнтр псіхічнага здароўя. Для работы ў амбулаторыях падрыхтавалі 21 урача, плённа працуе праграма іх другой спецыялізацыі. У адпаведнасці з сусветнымі крытэрыямі прыёмнае аддзяленне ЦРБ рэарганізавалі ў прыёмна-дыягнастычнае, стаў працаваць па раёну і перасоўны медпункт. У выніку прынятых мер раён выйшаў сёлета на самую высокую колькасць родаў за апошнія 20 гадоў, сярэдняя працягласць жыцця вырасла з 70 да 73,5 гадоў, а жанчыны жывуць амаль па 80 гадоў.

## Аршанскі раён

# Кожнаму – сваё

■ Чэслаў Якубовіч.

**Амаль адначасова займела працяг трагічная гісторыя з гібеллю вясной ад выстралу браканьера супрацоўніка Аршанскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.**

Праз паўгода пасля гэтага рэзананснага здарэння ў горадзе на будынку прафтэхвучылішча №122, якое калісьці закончыў Генадзь Раўкоў, увекавечылі яго памяць і адкрылі мемарыяльную дошку. З гэтай нагоды сюды на мітынг-рэквіем прыехалі яго калегі, інспектары аховы прыроды з усёй вобласці, з іншых рэгіёнаў, сябры, родныя і блізкія. За мужны ўчынак удаве загінулага ўручылі пасмяротную ўзнагароду, медаль "За адвагу". Генадзя ведалі многія, як энергічнага і шчырага чалавека, да прыходу ў дзяржінспекцыю былы 44 гадовы воін-дэсантнік плённа служыў у аддзеле міліцыі па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі. Акрамя жонкі ў загінуўшага засталіся пажылая маці, двое дочак і маленькая ўнучка. Тым часам, завяршыўся працэс па гэтай справе ў абласным судзе, які працягваўся два месяцы. Суд вынес строгі вердыкт пакараць забойцу інспектара, 55-гадовага Дзмітрыя Голубева выключнай мерай – пажыццёвым зняволеннем. Абвінавачваемы, дарэчы, у далёкім мінулым таксама служыў у міліцыі, а ў момант забойства працаваў вадзіцелем райгазеты "Наша Талачыншчына". Ён так і не прызнаў сваёй віны і ў апошнім слове ў судзе сцвярджаў, што ў сваёй гібелі вінаваты сам інспектар.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 19.11.15 | | | | Пятніца 20.11.15 | | | | Субота 21.11.15 | | | | Нядзеля 22.11.15 | | | | Пан. 23.11. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +8 | +5 | +7 | +7 | +7 | +6 | +5 | +4 | +2 | +1 | +1 | +2 | +1 | 0 | +1 | +1 | 0 | -1 | 0 |
| Ціск | 734 | 735 | 733 | 733 | 731 | 728 | 731 | 733 | 733 | 728 | 718 | 714 | 720 | 725 | 729 | 735 | 739 | 740 | 742 |
| Вецер м/сек | 5 | 4 | 7 | 5 | 6 | 6 | 5 | 5 | 1 | 7 | 10 | 5 | 6 | 7 | 9 | 6 | 5 | 5 | 5 |
| | З | Ю | Ю-З | Ю-З | Ю-З | Ю-З | С-З | З | Ю | Ю-В | В | Ю | З | Ю-З | Ю-З | Ю-З | Ю | Ю | Ю-З |
| Вільготнасць | 91 | 92 | 89 | 93 | 91 | 92 | 85 | 92 | 89 | 90 | 93 | 94 | 89 | 88 | 84 | 86 | 83 | 87 | 83 |

## Аб самым надзённым

# БЕЗ СУР'ЁЗНЫХ СТРУКТУРНЫХ РЭФОРМ БЕЛАРУСКАЯ ЭКАНОМІКА НЕ АЖЫВЕ, НЕ СТАНЕ ЭФЕКТЫЎНАЙ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Лячэнне хворай беларускай эканомікі будзе няпростым, а самых слабых вытворцаў чакае непазбежная кіруемая санацыя з банкротствамі, а ў лепшым выпадку і прыватызацыя з адпаведнымі наступствамі.**

Услед за прэзідэнцкімі выбарамі ў Беларусі правялі свае выбары іншага гатунку нашы суседзі ў Польшчы і ва Украіне. Як і чакалася, больш заможныя за нас палякі выказаліся на выбарах у парламент за тое, каб да ўлады вярнуліся кансерватары з раней апазіцыйнай партыі "Права і справядлівасць". Кіраваць новым польскім урадам будзе дагэтуль малавядомы палітык-жанчына Беата Шыдла і ўпершыню за Бугам пасля аднаўлення дэмакратычнага ладу з 1989 года там будзе правіць адна партыя, а раней пастаянна была кааліцыя з некалькіх партый. У суседняй Украіне большасць месц на прайшоўшых мясцовых выбарах дасталася прыхільнікам патрыятычных партый, якія выступаюць за цесную інтэграцыю з Еўрасаюзам.

Іншая справа ў нас, дзе ўжо два апошнія дзесяцігоддзі практычна мала што мяняецца, хоць апошнім часам толькі прыбаўляецца ў людзей жыццёвых цяжкасцяў. Таму зноў трыумфальна пераабраны нязменны глава дзяржавы пасля выбараў не стаў адкладваць надоўга і ўжо правёў нараду па актуальных пытаннях развіцця Беларусі. Прэзідэнт на галоўнае пытанне, што нас чакае ў бліжэйшы час, адказаў так: " некоторые говорят: есть кредит доверия и надо провести непопулярные меры, причём очень быстро, читай – надо быстренько резать по живому. Когда будете президентами, тогда будете резать. Я никого и ничего резать не намерен".

Між тым, большасць дасведчаных спецыялістаў лічаць, што дна падзення свайго жыццёвага ўзроўню беларусы яшчэ не дасягнулі, хоць па ўзроўню заробкаў мы апынуліся ў тройцы самых бедных краін Еўропы. У такіх умовах беларускае кіраўніцтва, праўда, агучыла ідэю зняць у банкіраў усялякі тлушч, а праводзімыя рэформы будуць накіраваны на ўдасканаленне існуючай сістэмы кіравання эканомікай, а не на яе ломку. Аднак цікава, што зараз у многіх высокапастаўленых дзеячаў дзяржапарату існуе іншая думка, што менавіта ранейшая ручная дырэктыўная схема ўпраўлення і давяла краіну да ручкі.

Асабліва шмат падобных выказванняў прагучала ўслед за нарадай у А. Лукашэнкі на прайшоўнай у Мінску міжнароднай навуковай канферэнцыі "Праблемы прагназавання і дзяржаўнага рэгулявання сацыяльна-эканамічнага развіцця". Калі беларускі лідар прапанаваў няхітры рэцэпт распісаць паштучна кожны трактар, аўтамабіль і кілаграм мяса з малаком, як мага болей іх вырабляць, прадаваць і грошы зарабляць, то ягоны памочнік па эканамічных пытаннях, малады доктар навук, прафесар Кірыл Руды з гэтым фактычна не пагадзіўся. Гэты навуковец рашуча выказаўся за тое, што дзяржаве патрэбна рашуча адысці ад ручнога кіравання эканомікай, укараніць такую сістэму, якая дзейнічае і апраўдае сябе ў большасці. Сапраўды, К. Руды мае рацыю і ён ведае, што будзе стратэгічнай памылкай не праводзіць наспеўшыя рэформы. Хоць ты штотыднёвы максімальны жорсткі кантроль уводзь за дзейнасцю, напрыклад, таго ж праблемнага МТЗ, але ж у яго толькі пастаўшчыкоў 595, 267 замежных фірм і 145 прыватных кампаній. За граніцай на наш адміністрацыйны нажым ніхто глядзець не будзе, у горшым выпадку, такі партнёр проста адмовіцца мець справу ў далейшым з беларусамі. У выніку за 7 апошніх гадоў у Беларусі так не быў выкананы ніводзін гадавы план сацыяльна-эканамічнага развіцця.

Адзінае, з чым можна пагадзіцца з дзеючым кіраўніцтвам краіны: наперадзе ўсіх нас чакае няпросты час і сур'ёзныя выпрабаванні. Шчыра кажучы, пакуль няма рэсурсаў для павышэння даходаў працуючых (у пачатку восені складскія запасы прадпрыемстваў Міністэрства прамысловасці Беларусі выраслі да 201% сярэднемесячных аб'ёмаў вытворчасці). Не будзе дзейнічаць і загад не дапусціць звальненняў працуючых на буйных заводах. Хто ў гэтым сумняваецца, хай пабывае на сталічных МАЗе, МТЗ, "Гарызонце" і іншых гігантах індустрыі, дзе за апошнія гады звольнілі ўжо на кожным з іх не па адной тысячы рабочых і служачых.

Як паказвае ход падзей і няпростая сітуацыя ў суседняй Расіі (нізкія цэны на нафту будуць яшчэ доўга і санкцыі супраць Крамля таксама не адменяць), то беларусаў акрамя стагнацыі можа чакаць і далейшае падзенне аб'ёмаў вытворчасці. Не будзе ў 2016 годзе заяўленага павышэння ўзроўню зарплат, наадварот, яны могуць апусціцца і да 300 долараў, у глыбінцы і таго меней. Як ні горка, а наша дзяржава не зможа, як дагэтуль, падтрымліваць фінансава цэлыя стратныя галіны і сектары эканомікі. Мы дажыліся да таго, што зараз ужо 80% прадпрыемстваў не маюць сродкаў на бягучую дзейнасць, фактычна праелі свае абаротныя сродкі. Лячэнне хворай беларускай эканомікі будзе няпростым, а самых слабых вытворцаў чакае непазбежная кіруемая санацыя з банкротствамі, а ў лепшым выпадку і прыватызацыя з адпаведнымі наступствамі.

## Дзень за днём

**Самая буйная ў гісторыі дэнамінацыя і новыя грошы з манетамі чакаюць беларусаў. З пачатку года ў 1,5 разы вырасла ў Беларусі колькасць неэфектыўных, стратных прадпрыемстваў і арганізацый. У студзені-жніўні яны атрымалі амаль 2 мільярда долараў страт. Далейшую стагнацыю беларускай эканомікі спрагназаваў Сусветны банк. Айчынныя прадпрыемствы запазычылі банкам ужо 2 трыльёны рублёў крэдытаў на заработную плату. У рамках ЕАЭС цэны на роўмінг сувязі знізяць у 7 разоў. Для беларусаў зноў падаражэлі цыгарэты. Амерыканскія сіноптыкі заявілі, што снежань і студзень зноў будуць вельмі цёплымі.**

# Важнейшыя навіны свету

**Ірак.** Баевікі групоўкі "Вілайята Сінай" з "Ісламскай дзяржавы" заявілі, што гэта яны збілі расійскі самалёт над Егіптам, але адмовіліся паведамляць пра характар тэракту.

**Англія.** Глава МЗС Ф. Хэммалд заявіў, па дадзеных разведкі, вельмі верагодна, што крушэнне самалёта А321 выклікаў выбух бомбы на борце, палёты там прыпыняць.

**Турцыя.** На паўторных праз 5 месяцаў парламенцкіх выбарах пераканаўчую перамогу атрымала правячая партыя Справядлівасці і развіцця, якая набрала 49,6% галасоў.

**Казахстан.** Дзяржсакратар ЗША Джон Керры заявіў, што Данбасу павінен быць прадастаўлены асаблівы статус, але ўся граніца Украіны - быць пад яе кантролем.

**Румынія.** Пасля пажару ў начным клубе Бухарэста з гібеллю 32 чалавек прэм'ер-міністр Віктар Понта ўзяў адказнасць за трагедыю на сябе і падаў у адстаўку.

**Іран.** Камандзір элітнага ваеннага корпуса М. Джафары паведаміў аб сур'ёзных рознагалоссях іранцаў з Расіяй наконт далейшага лёсу прэзідэнта Сірыі Б. Асада.

**Японія.** Вучоныя краіны распрацавалі новы прэпарат, які за адзін дзень прадухіляе распаўсюджванне вірусу грыпа ў арганізме і поўнасцю вылечвае чалавека ад хваробы.

**КНДР.** Першы за 36 гадоў з'езд правячай Працоўнай партыі Карэі пройдзе праз 36 гадоў у маі 2016 года, па статуту кампартыі яны павінны былі праводзіцца праз кожныя 5 гадоў.

**Расія.** З вяртаннем нова 1937 года параўнаў журналіст Аркадзь Бабчанка вобыскі і арышты ў будынку бібліятэкі Украінскай літаратуры ў Маскве, РФ чакаюць рэпрэсіі.

**Украіна.** На тэрыторыі сепаратысцкай "ДНР" цэны сталі ў 2 разы вышэй, чым па ўсёй краіне, колькасць насельніцтва зменшылася на 23%, але ўзровень міграцыі ўпаў.

**Швецыя.** Вялікі інтарэс у свеце выклікаў вопыт шэрагу кампаній краіны, якія перавялі супрацоўнікаў на 6-гадзінны рэжым працы з захаваннем ранейшай зарплаты.

**Расія.** Вядомы эканаміст А. Моўчан шчыра прызнаў, што ЕАЭС – гэта не саюз дзяржаў, а хутчэй пояс сатэлітаў Крамля, у Беларусі ўвогуле няма стратэгіі далейшага развіцця.

**Літва.** Прадстаўнікі ўрада краіны, работадаўцаў і прафсаюзаў дамовіліся аб устанаўленні для літоўцаў з 1 студзеня 2016 года новай мінімальнай зарплаты ў памеры 350 еўра.

**Расія.** Эксперты ВШЭ, як паведаміла "Независимая газета", выявілі сур'ёзнае пагаршэнне сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ў 14 рэгіёнах РФ, у Маскве, Крыму, на Каўказе, Урале.

**Канада.** Жыхары Сэнт-Джорджа спецыяльна на 2 месяцы раней упрыгожылі горад, засыпалі штучным снегам і адсвяткавалі Каляды для паміраючага ад раку мозга малога.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Як заявіў вядомы эканаміст А. Балточка, зараз А. Лукашэнка, мяркуючы па яго рыторыцы, думае, што рабіць з існуючай эканамічнай мадэллю, ці ісці на рэформы.

**Дзяржынск.** Пасля наведвання ваеннага завода А. Лукашэнка паставіў перад Дзяржваенпрамам задачу паставіць арміі новыя ракетныя комплексы ў 2016-2017 гадах.

**Клічаў.** На радзіме пахавалі загінуўшага ў авіякатастрофе расійскага самалёта ў Егіпце 28-гадовага беларуса Р.Серадзінскага, загінула і сям'я беларусаў Радлевічаў, грамадзян РФ.

**Барысаў.** Прэзідэнт кітайскай кампаніі Geely Ань Цунхуэй пацвердзіў, што да 1 студзеня 2017 года пабудуюць новы аўтазавод "БелДжы" па зборцы да 60 тысяч аўто штогод.

**Мінск.** Для выхаду з крызіса былы глава Нацбанка С. Багданкевіч прапанаваў ажывіць эканоміку, пайсці на зніжэнне расходаў бюджэту і структурныя рэформы.

**Магілёў.** Мясцовы завод грузавых вагонаў здолеў на складах назапасіць гадавы аб'ём выпуску прадукцыі, у цэлым па краіне спад у прамысловасці дасягнуў ужо 7 %.

**Салігорск.** Пасля аварыі абсталявання на 4-м рудаўпраўленні ААТ "Беларуськалій" скарацяць на 3-4 тыдні выпуск белага хларыстага калію з-за неабходнага рамонту.

**Маладзечна.** Раён паблізу сталіцы стаў самым праблемным у Беларусі па ўзроўню беспрацоўя, з 1,8% за год колькасць беспрацоўных вырасла ў 2, 6 разы да 1095 чалавек.

**Мінск.** Віцэ-прэм'ер М. Русы заявіў, што ўмовы, на якіх Казахстан пагадзіўся ўступіць у Сусветную гандлёвую арганізацыю, для нас непрымальныя, асабліва па цукру, малаку.

**Гродна.** Вечарам у цэху "Карбамід-2" на ААТ "Гродна Азот" прарвала трубаправод, у паветра выцекла 200 кг пароў аміяку, падчас ліквідацыі аварыі моцна пацярпеў слесар.

**Брэст.** Больш 400 чалавек засталіся без працы пасля спынення поўнасцю вытворчасці на філіяле завода вінаградных він з-за зніжэння квот на выпуск алкагольнай прадукцыі.

**Бабруйск.** Да 2 гадоў абмежавання волі прыгаворана 24-гадовай гараджанка, якая біла швабрай па мужу, а пацэліла ў галаву 5-месячнаму сыну і пераламала яму косці чэрапа.

**Гомель.** П'яная жанчына-віноўніца ДТЗ кінулася з кулакамі на супрацоўніка ДАІ, ёй пагражае буйны штраф, пазбаўленне правоў на 3 гады і крымінальная адказнасць.

**Барысаў.** Суд пазбавіў бацькоўскіх правоў маладую непітушчую жанчыну і забраў яе сына з сям'і з-за яе вельмі моцнай камп'ютарнай залежнасці, з-за чаго яна кінула працу.

**Слонім.** Абурэнне спецыялістаў выклікала незаконная змена гістарычнага вобліку помніка архітэктуры XVII стагоддзя – Троіцкага сабора, дзе змянілі купал на цыбуліну.

## «Мінімалку» і зарплаты чыноўнікаў праіндэксуюць, стыпендыі і даходы бюджэтнікаў пакінуць ранейшымі



■ FINANCE.TUT.BY / БЕЛТА

**Мінімальны заробак за кастрычнік будзе праіндэксаваны, як і за верасень, на 5,1%. Узровень індэксацыі застанецца ранейшым, таму што інфляцыя за мінулы месяц не перавысіла адзнаку ў 5% да ліпеня - месяцу яго папярэдняй змены, паведамілі БЕЛТА ў Мінпрацы.**

Кастрычніцкая «мінімалка», як і папярэднія тры месяцы, складзе 2.180.000 126 рублёў. Працадаўца не можа выплачваць зарплату ніжэй гэтай сумы.

Нагадаем, урад усталёўвае памер «мінімалкі» ў пачатку года (на 1 студзеня гэтага года яна склала 2.100.000 100 рублёў). Яе памер павінен быць не ніжэй мінімальнага спажывецкага бюджэту (МСБ) сям'і з чатырох чалавек, які дзейнічае на 1 студзеня.

З 1 лістапада і да канца студзеня наступнага года МСБ складае 2.499.000 270 рублёў. Адпаведна, з 1 студзеня 2016 г. «мінімалка» будзе не ніжэй за 2,5 мільёна рублёў, пра гэта раней заявіў першы намеснік міністра працы і сацыяльнай абароны Андрэй Лабовіч.

Кастрычніцкія зарплаты бюджэтнікаў, як і стыпендыі (студэнтам, клінічным ардынатарам і работнікам, якіх накіравалі на павышэнне кваліфікацыі, перападрыхтоўку або стажыроўку ў іншы населены пункт), не будуць індэксаваць. Прычына - інфляцыя за кастрычнік не перавысіла пяціпрацэнтны парог да сакавіка, калі адбылася аднаразовы перагляд.

Нагадаем, вераснёвая зарплата бюджэтнікаў хоць і вырасла ўпершыню за тры апошнія месяцы на 1,4%, але ўсё роўна адстае ад сярэдняй па краіне на 1,5 мільёна рублёў.

На індэксацыю кастрычніцкіх заробкаў на 12,9% могуць разлічваць дзяржслужачыя і прыраўнаваныя да іх асобы. На гэтым жа ўзроўні будзе перагледжана грашовае забеспячэнне ваеннаслужачых, прадстаўнікоў радавога і начальніцкага складу, а таксама тэрміновай службы, сувораўцаў, выхаванцаў воінскіх часцей, курсантаў ваенных навучальных устаноў.

Дапамога па беспрацоўі і стыпендыі на час перападрыхтоўкі або павышэння кваліфікацыі ад цэнтраў занятасці, якія залежаць ад памеру базавай велічыні, як і ў папярэднім месяцы, праіндэксуюць на 5,1%.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** У пачатку кастрычніка ўзровень беспрацоўя па вобласці дасягнуў 1,2%, найгоршая сітуацыя ў Віцебску і ў Пастаўскім раёне (1,6% да колькасці працаздольных).

**Глыбокае.** Ад абавязкаў старшыні Следчага камітэта РБ А. Лукашэнка вызваліў па згодзе бакоў ураджэнца горада Валянціна Шаева, ён кіраваў следчымі краіны амаль 3 гады.

**Верхнядзвінск.** На полі за вёскай Гаі прайшоў раённы Дзень аратага, майстар-клас работы за плугам паказаў 16 лепшым механізатам краю глава раёна Ігар Марковіч.

**Наваполацк.** Дэпутат парламента ад горада 38-гадовы В. Дзевятоўскі заявіў, што не хоча быць міністрам спорту, а ў ніжняй палаце ён зарабляе да 17 мільёнаў рублёў штомесяц.

**Лепель.** З пасады дырэктара Бароўскай СШ пайшоў на павышэнне ў раён намеснікам старшыні Лепельскага райвыканкама па сацыяльнай сферы Віктар Азаронак.

**Віцебск.** Пастановай урада Беларусі з 1-га лістапада ўчасткі аўтадарог М3 на Мінск і Р21 Віцебск-мяжа Расіі (Лёзна) сталі платнымі для праезду ў сістэме Bell Toll.

**Орша.** Больш 200 сем'яў з аграгарадка Зубрэвічы сталі карыстацца дабротамі цывілізацыі пасля падводу сюды сетак прыроднага газу, газіфікавана ў вобласці 108 з 254 аграгарадкоў

**Паставы.** На 235 мільёнаў рублёў прадала мясцовае раённае спажывецкае таварыства садавіны, гароднін, прадукцыі каўбаснага цэха, варэння і саленняў за адзін выезд у Мінск на восеньскі кірмаш.

**Лёзна.** Пад раніцу ў вёсцы Гарэлікі поўнасцю згарэў жылы дом, на папялішчы пажарныя знайшлі труп адзінокага мужчыны, які нідзе не працаваў, любіў часта выпіваць.

**Віцебск.** Урад Польшчы вырашыў, што на тэрыторыі вобласці не будзе іх візавых цэнтраў, польскія візы жыхарам Прыдзвіння выдае консульства Латвіі ў абласным цэнтры.

**Браслаў.** На працягу двух дзён у раёне праходзіў абласны выязны семінар бібліятэкараў па ўкараненню сучасных тэндэнцый па абслугоўванню чытачоў у рэгіёнах.

**Докшыцы.** З нагоды праходзячага восеньскага прызыву ў райцэнтры адбыўся Дзень прызыўніка, да канца месяца адзенуць ваенную форму 43 мясцовыя хлопцы.

**Глыбокае.** Маладая глыбачанка Валерыя Рыжая атрымала Гран-пры пленэра "Палітра Пастаўшчыны", прысвечанага 35-годдзю Пастаўскай школы мастацтваў імя А. Ромера.

**Шаркаўшчына.** Суд пакараў 5 гадамі турмы 38-гадовага былога галоўнага бухгалтара раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, які махінацыямі даналічыў сабе 150 мільёнаў рублёў.

**Віцебск.** Па выніках выступленняў сёлета на міжнародных спаборніцтвах у спіс кандыдатаў на ўдзел у летняй Алімпіядзе-2016 уключаны 31 атлет ад Віцебшчыны.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Трэба пераходзіць на бараніну?

## Але ж мы не жыхары стэпаў і не качэўнікі!

**Уладзімір Скрабатун**

**Бараніна — мяса бараноў (авечак) пры ўжыванні ў ежу. Мяса маладога ягня завецца ягняціна.**

**Ужываецца ў смажаным, вараным, параным, вэнджаным, вяленым і салёным выглядзе для падрыхтоўкі шырокага спектру страў, уключаючы: супы, напрыклад, шурпа і бозбаш, і другія стравы — бешбармак, плоў, шашлык, манты, каўбасы, сасіскі, куурдак, фарыкол і шмат іншага.**

**Бараніна заўсёды лічылася дыетычным і лёгказасваяльным мясам.**

**Бараніна была і застаецца важнай часткай штодзённага рацыёну качавых, цюркскіх і мангольскіх народаў Азіі, у Расіі найболей каштоўнай (не мае спецыфічнага прысмаку, багатая мінеральнымі рэчывамі і вітамінамі) пародай лічыцца калмыцкая парода, атрыманая ў выніку селекцыі мангольскіх мясных парод авечак.**

Ёсць афрыканская чума свіней, была яна, ці не было яе наогул? – гэтае пытанне хвалюе, бадай, усіх. І не толькі ўладальнікаў свінога пагалоўя, але і звычайных пакупнікоў, якія б хацелі набываць свежую свініну на рынку. – Можа гэта – "дыверсія" буйных вытворцаў свініны ў змове з гандлёвымі сеткамі? – такое меркаванне ледзьве не штодня чуеш з вуснаў простага абывацеля. – Яны хочуць "задушыць" дробнага вытворцу, г.зн, прыватніка, селяніна.

Людзі абураюцца: "Як пражыць у вёсцы, калі заробкі – мізэрныя і іх затрымліваюць? Няма на што жыць, апрануцца, заплаціць за электрычнасць... Як дапамагчы матэрыяльна сыну ці дачцэ, якія паступілі ва ўніверсітэт і не могуць пражыць на стыпендыю, ці горш таго – трэба плаціць за вучобу на платнай аснове? Адзіны спосаб дапамагчы сабе і дзецям – гадаваць свіней, прадаць мяса на рынку, альбо праз прыватныя абвесткі ў газетах "Веснік Глыбоччыны" і "Вольнае Глыбокае".



МІНІСТЭРСТВА СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ І ХАРЧАВАННЯ
Дзяржаўная лячэбна-прафілактычная установа
«ГЛЫБОЦКАЯ РАЁННАЯ ВЕТЭРЫНАРНАЯ СТАНЦЫЯ»
211800 г. Глыбокае, вул. Фізкультурная, 13
Тэл./факс 2-80-82, 2-84-93

МИНИСТЕРСТВО СЕЛЬСКОГО ХОЗЯЙСТВА И ПРОДОВОЛЬСТВИЯ
Государственное лечебно-профилактическое учреждение
«ГЛУБОКСКАЯ РАЙОННАЯ ВЕТЕРИНАРНАЯ СТАНЦИЯ»
211800 г. Глубокое, ул. Физкультурная, 13
Тел./факс 2-80-82, 2-84-93

Главному редактору

Государственное лечебно-профилактическое учреждение «Глубокская районная ветеринарная станция» информирует о том, что согласно решения Глубокского районного исполнительного комитета от 23 сентября 2013 г. № 1238 «О запрете реализации свинины», постановления Совета Министров Республики Беларусь от 29 августа 2013 г. № 758 « О дополнительных мерах по ликвидации и недопущению распространения африканской чумы свиней и других опасных заболеваний животных» и внесении изменений и дополнений в постановление Совета Министров Республики Беларусь от 10 ноября 2014 г. № 1057: запрещается перемещение и реализация свиней и продуктов их убоя из частных подворий граждан.

На основании вышеизложенного просим не печатать объявления о продаже свиней и продуктов их убоя, а также объявления о реализации комбикорма в Вашей газете.

Главный ветеринарный врач
Глубокского района
Л.В.Стотик

Мы ізноў – 2-гі раз – атрымліваем пісьмо з Глыбоцкай раённай ветэрынарнай станцыі з просьбай *"не друкаваць абвесткі аб продажу свіней і прадуктаў іх убою"*.

Першы раз, ці не год таму, мы выканалі гэтую просьбу, бо яна спасылаецца на пастанову Савета Міністраў, з чаго вынікае і адпаведнае рашэнне Глыбоцкага РВК.

Праз пэўны час мы аднавілі прыём абвестак аб продажы свіней і прадуктаў іх убою. Чаму? Таму, што калі "Веснік Глыбоччыны", друкаваны орган мясцовай заканадаўчай і выканаўчай улады – іх змяшчае, то, лагічна, ніякай чумы ўжо няма, ці яна знікла бясследна.

Гэтым разам мы ізноў правялі даследаванне яшчэ больш шырэйшае. Аказваецца, на тэлефон №166 падобныя абвесткі не паступаюць толькі з Оршы. Натуральна, адкуль жа ім адтуль узяцца! Не гадуюць жа аршанцы свіней на балконах! Мы пагарталі даступныя газеты нашых калегаў па ўсёй Беларусі. Няма такіх абвестак, напрыклад, у брэсцкіх газетах. Гэта, як і ў Оршы. Але падобныя абвесткі ёсць у маладзечанскіх газетах.

Мы не адмаўляемся выконваць распараджэнні дзяржаўных органаў і выканаем. Але гэтае пытанне патрабуе далейшага вывучэння, бо, каб не атрымалася, што ўлады ўключыўшы сігнал "Алярм!" – пасля ўстаранення, ці знікнення праблемаў – забыліся даць каманду "Адбой!"



**Некаторыя глыбачане – жыхары прыватнага сектара – даўно зрабілі высновы, што гадаваць атару (хоць і ў колькасці некалькіх асобін) авечак – лягчэй, чым такую ж колькасць свіней у катуху. Не трэба гатаваць ежу, прыбіраць гной. Авечкі харчуюцца самі, наўпрост на газоне, насупраць хаты.**
**На здымку: краявід з авечкамі на вул. Чэхава.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

# 19 лістапада – "Сусветны дзень некурэння. Прафілактыка анкалагічных захворванняў"

**Д.А. Шыльчонак,**
*фельчар-валеолог.*

**Чаму людзі пачынаюць курыць? Хтосьці хоча быць падобным у сваіх учынках на іншых, хтосьці паддаецца ўплыву асяроддзя, якое курыць, а хтосьці лічыць курэнне модным. Адны жадаюць пачувацца спакайней, пазбегнуць страхаў, пачуцці трывогі, іншыя ў нікаціне шукаюць выратаванне, калі ім трывожна, сумна, некамфортна.**

**Курэнне** – адна з самых распаўсюджаных звычак, якая наносіць не толькі шкоду здароўю чалавека, але і грамадству. У працэс курэння ўключаны ўсе пласты насельніцтва: мужчыны, жанчыны і падлеткі. Для тых, хто курыць, праблемай з'яўляецца кінуць курыць, а хто не курыць – не навучыцца курыць, пазбегнуць уплыву грамадства, якое курыць, і захаваць сваё здароўе.

Тытунь мае вельмі складаны і шматстайны склад: бялкі, вугляводы, поліфенолы, смалаўтваральныя і мінеральныя рэчывы, ферменты і іншыя. У тытунёвым дыме, г.зн. прадукце непасрэднага спажывання курца, утрымоўваюцца дзясяткі атрутных рэчываў: нікацін, аксід вугляроду, сажа, бензапірэн, мурашыная, сінільная і вуцатная кіслоты, аксіды азоту, аміяк, мыш'як, фармальдэгід, стырол, радыёактыўныя ізатопы і іншыя.

**Нікацін** – адзін з мацнейшых раслінных ядаў. У чыстым выглядзе гэта бясколерная алеістая вадкасць з непрыемным пахам, горкая на смак, лёгка пранікальная праз слізістыя.

Вельмі небяспечны для курца тытунёвы дзёгаць. Калі чалавек скурвае ў дзень пачак цыгарэт, то за год ён атрымлівае праз лёгкія 800 г дзёгцю. У склад яго ўваходзяць розныя араматычныя рэчывы, канцэрагенныя смолы, здольныя выклікаць злаякасныя пухліны.

Пры злоўжыванні нікацінам у чалавека настаюць функцыянальныя і арганічныя змены ў цэнтральнай нервовай сістэме.

Вельмі шкодна курэнне ў дзіцячым і падлетkавым узросце. Курэнне выклікае затрымку росту, прыводзіць да зніжэння фізічнай і разумовай працаздольнасці. У выніку парушэння абмену рэчываў павялічваецца стамляльнасць, адбываецца агульнае паслабленне арганізму.

Працяглае курэнне прыводзіць да таго, што чалавек часта хварэе, у яго змяншаюцца працаздольнасць, увага і фізічная цягавітасць. У людзей, якія кураць, павялічваецца рызыка ўзнікнення ракавых захворванняў, якія вядуць да заўчаснай смерці ці інваліднасці.

Людзі, якія кураць, не здольныя дасягнуць высокіх вынікаў у спорце і іншых відах дзейнасці, напрыклад, спеве (голас становіцца сіплым).

На адмысловым месцы сярод хвароб, звязаных з курэннем, знаходзяцца злаякасныя наватворы. Да іх адносяцца рак лёгкага, стрававода, гартані і поласці рота, рак мачавога пухіра і падстраўнікавай залозы, рак ныркі, страўніка, малочнай залозы, шыйкі маткі, насавой поласці.

Рызыка ўзнікнення злаякасных наватвораў наўпрост залежыць ад наступных фактараў: колькасці выкурваемых цыгарэт у дзень, узросту пачатку курэння і "стажу" курэння. Рызыка развіцця рака вышэй у тых, хто пачынае рэгулярна курыць у юнацкім узросце.

Па дадзеных Сусветнай Арганізацыі Аховы здароўя, смяротнасць ад рака поласці рота і стрававода ў тых, якія кураць у 4 разы вышэй, чым у тых, хто не курыць.

Першы пункт Еўрапейскіх рэкамендацый па барацьбе з ракам абвяшчае:

**Не курыце!** Курэнне з'яўляецца важнейшай прычынай заўчаснай смерці.

**Калі Вы курыце – спыніце!** Спыненне курэння да пачатку развіцця рака ці іншых сур'ёзных захворванняў прадухіляе падвышэнне рызыкі развіцця тытунезалежных хваробаў у пазнейшым узросце, нават калі курэнне спыняецца ў сярэднім узросце.

**Калі Вы не можаце кінуць курыць, не курыце ў прысутнасці тых, якія не кураць.** Ваша курэнне можа аказаць неспрыяльнае ўздзеянне на здароўе навакольных.

Барацьба з курэннем – гэта барацьба за здароўе не толькі тых, хто курыць, але і навакольных іх людзей, гэта значыць, барацьба за здароўе ўсяго грамадства.

Пасіўнае курэнне – гэта змушанае курэнне, калі навакольныя людзі, якія не кураць, дыхаюць паветрам, якое забруджана тытунёвым дымам. Чалавек, які курыць, прыносіць шкоду не толькі сабе, але і здароўю тых, хто знаходзіцца побач з ім. Утрыманне шкодных рэчываў паблізу тых, што кураць, у 4,5 раза вышэй забруджанасці выхлапнымі газамі аўтамабіля. Нават пры скурванні толькі адной цыгарэты ў пакоі забруджанасць паветра перавышае дапушчальную норму ў 20 разоў на працягу гадзіны.

Не існуе бяспечнай цыгарэты і бяспечнага ўзроўню курэння. Адзіным найболей эфектыўным спосабам зніжэння небяспекі для здароўя застаецца спыненне курэння. Калі чалавек, які курыць, усведамляе небяспеку шкоднай звычкі і праявіць сілу волі, то ён зможа кінуць курыць.

Адмова ад тытунекурэння – найболей перспектыўны кірунак прафілактыкі онказахворванняў.



# Як камуністычныя ідэолагі малатком і зубілам пісалі гісторыю



Збітыя лічбы на помніку

**Гэты крыж стаіць у вёсцы Свірдуны побач з дарогай, якая вядзе з Паставаў у Лынтупы. На першы погляд – звычайны вясковы крыж, але пад сабой ён захоўвае цэлую гісторыю, пра якую нам паведаміў жыхар Лынтупаў Уладзімір Іванковіч.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*

У 70-я гады мінулага стагоддзя гэта месца было заросшы кустамі. І вось у гэтых кустах знайшлі пліту, на якой быў надпіс на польскай мове. Хтосьці выказаў меркаванне, што тут ляжаць парэшткі ўдзельнікаў паўстання Каліноўскага. Прыехала цэлая камісія з Пастаўскага райкама партыі, вывучалі надпіс на пліце, потым хтосьці з іх з дапамогай малатка і зубіла збіў апошнія дзве лічбы ў даце.

Што ж там такога крамольнага было ў тых лічбах? Як лічыць Уладзімір Іванковіч, гэта, хутчэй за ўсё, помнік паўстанцам 1831 года. Як вядома з гістарычных крыніц, антырасійскае паўстанне 1830–1831 гадоў было ў нашай мясцовасці больш арганізаваным і моцным, чым паўстанне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага ў 1863–1864 гадах. Дастаткова ўзгадаць, што паўстанцам удалося тады нават узяць Дзісну. Але яно не ўпісалася ў афіцыйную камуністычную гісторыяграфію. Як гэта беларусы, якія, поводле камуністычных гісторыкаў, стагоддзямі толькі і марылі, каб далучыцца да Расіі, маглі ўздымаць супраць яе паўстанні. Таму ў савецкай школе пра гэта паўстанне наогул не згадвалася. Паўстанне ж пад кіраўніцтвам Каліноўскага, якое адбылося праз тры дзесяцігоддзі, афіцыйная гістарычная навука падавала як антыцарскае, накіраванае супраць памешчыкаў. Пра тое, што паўстанцы ваявалі за незалежнасць нашай Айчыны, таксама стараліся не ўзгадваць.

Вось па гэтай прычыне і было вырашана знішчыць апошнія лічбы на надмагільнай пліце. Сам жа надпіс з польскай мовы перакладаецца як “Тут ляжаць парэшткі герояў гэтай зямлі, якія палеглі за свабоду Айчыны”, далей стаіць год, дзве лічбы якога чытаюцца добра, а дзве апошнія збітыя.

Гэта пліта была ўсталяваная ў пачатку 30-х гадоў мінулага стагоддзя, калі нашыя землі ўваходзілі ў склад польскай дзяржавы. Якраз тады адзначалася стагоддзе з моманту Лістападаўскага паўстання. Так яно называецца ў польскіх гісторыкаў.



Уладзімір Іванковіч чытае надпіс на надмагільнай пліце



Крыж над магілай паўстанцаў у Свірдунах.

Магілы паўстанцаў якраз і знаходзіліся каля вёскі Свірдуны. Мясцовы ксёндз арганізаваў тады перазахаванне парэштакў гэтых людзей. Яны былі звезеныя і перазахаваныя ў адной агульнай магіле, над якой быў усталяваны крыж і гэтая памятная пліта.

Дарэчы, пры польскіх уладах памяць пра паўстанні 1830–1831 гадоў і 1863–1864 гадоў вельмі шанавалася. Што тычыць апошняга паўстання, то тады яшчэ былі жывыя некаторыя яго ўдзельнікі, якіх вельмі паважалі, запрашалі нават на розныя ўрадавыя мерапрыемствы. А вось новай уладзе такія героі не падыходзілі, таму і стараліся рознымі спосабамі знішчыць памяць пра гэтых людзей і , наогул, пра тыя падзеі.

Так, непадалёк ад Лынтупаў, у вёсцы Жакі таксама стаяў помнік героям гэтага паўстання. Дык вось, у 70-я гады ХХ стагоддзя па загаду мясцовага агранома крыж быў знішчаны, надмагільную пліту з магілы прыбралі і ўмуравалі ў падмурак калгаснай канюшні, а само месца пахавання было разарана і засеяна. Пры гэтым плугамі былі парасцягваны па ўсім полі чалавечыя косці. Лёс потым жорстка абыйшоўся з сям’ёй таго агранома – у яго згарэла хата, ён сам скончыў жыццё самагубствам, загінулі маладымі і тры яго сыны. Звязана гэта з паўстанскімі магіламі ці не, невядома, але шмат хто з мясцовых жыхароў гэту сувязь бачыць.

***Калі мы не будзем памятаць пра гэтых людзей, якія змагаліся за нашу незалежнасць, за нашу свабоду, то хто мы тады такія, што мы за людзі***

Тут трэба адзначыць, што дзякуючы Уладзіміру Іванковічу, іншым неабыякавым да нашай гісторыі людзям, такім, як Алесь Гарбуль, Міхал Гіль, Алесь Цыркуноў, помнік у Жаках быў зноў усталяваны. Праўда, па словах спадара Іванковіча, яны паставілі часовы помнік, каб не забылася памяць пра гэта месца, а з цягам часу тут варта паставіць добры помнік, такі, які гэтыя людзі заслугоўваюць.

Збіраецца Уладзімір і дапамагчы ў аднаўленні помніка ў вёсцы Свірдуны, пра які мы ўжо распавялі вышэй. Ёсць ужо нават намаляваны эскіз гэтага помніка, які зрабіў мастак Алесь Цыркуноў. Зараз справа за мясцовымі ўладамі – дазволяць яны яго ўсталяваць, або не. Па словах Уладзіміра Іванковіча, гэта месца знаходзіцца побач з дарогай, таму без дазволу ўладаў тут не абысціся. Хочацца спадзявацца, што гэты дазвол будзе атрыманы, а часы, калі гісторыя пісалася малатком і зубілам, назаўжды адышлі ў мінулае.

– Калі мы не будзем памятаць пра гэтых людзей, якія змагаліся за нашу незалежнасць, за нашу свабоду, то хто мы тады такія, што мы за людзі, – сказаў напрыканцы нашай размовы Уладзімір Іванковіч.

Варта адзначыць, што спадар Уладзімір ужо ўдзельнічаў у аднаўленні помніка палеглым жаўнерам у савецка-польскай вайне 1920 года. Удзельнічаў не толькі сваёй працай, але і як адзін з фундатараў. Гэты помнік знаходзіцца на могілках у Лынтупах. Таксама з яго дапамогай была зроблена капліца ў вёсцы Радута, на чыгуначнай станцыі пастаўлены помнік інжынеру Баляславу Ялавецкаму. Дзякуючы працы Ялавецкага ў 1897 годзе была пабудавана чыгунка Свянцяны – Беразвеч, якая злучыла Глыбокае з Вільняй і Санкт-Пецярбургам.

Калі ж пастаўскія ўлады дазволяць паставіць аднаўлены помнік паўстанцам, мы абавязкова раскажам пра гэта нашым чытачам.



Помнік палеглым жаўнерам на Лынтупскіх могілках.



Помнік паўстанцам у вёсцы Жакі. Уладзімір Іванковіч лічыць яго часовым.

# Глыбачане годна выступілі ў Віцебску




12 лістапада адбыўся чэмпіянат АУС Віцебскага аблвыканкама па самба. Годна выступіла каманда Глыбоцкага РАУС заняўшы 2-е агульнакаманднае месца сярод 16 каманд АУС Віцебскай вобласці.

У вагавай катэгорыі да 70 кг 3-е месца заняў Сяргей Цырбан, а ў вагавай катэгорыі да 90 кг – 2-е месца ў Міхаіла Цынковіча. Абодва маюць разрады кандыдатаў майстроў спорта.

# Адказнасць за парушэнні антыалкагольнага заканадаўства

**Супрацоўнікамі Глыбоцкага РАУС сумесна з супрацоўнікамі Глыбоцкага аддзела Дэпартамента аховы МУС Рэспублікі Беларусь за 10 месяцаў 2015 года за парушэнне антыалкагольнага заканадаўства (па арт. 12.27, 12.43 КоАП Рэспублікі Беларусь) складзена 38 адміністрацыйных пратаколаў, з незаконнага абароту канфіскавана 3 353.9 літраў фальсіфікаваных спіртных напояў, самагону і самагоннай брагі і 11 самагонных апаратаў.**

■ **А.І. Гігола**, *начальнік ААПП Глыбоцкага РАУС*

Найбольшая колькасць правапарушэнняў звязана з незаконным вырабам, захоўваннем і рэалізацыяй самагону і самагоннай брагі.

Так, у траўні бягучага года супрацоўнікамі Глыбоцкага РАУС сумесна з супрацоўнікамі АМАП палка ППСМ УУС Віцебскага аблвыканкама выяўлены факт рэалізацыі жыхаркай в. Зябкі мясцоваму жыхару за 60 тысяч беларускіх рублёў паўлітра самагонкі. У далейшым у ходзе агляду жылля ў дадзенай жыхаркі выяўлена і канфіскавана 2 літры самагонкі і самагонны апарат. Па сукупнасці адміністрацыйных правапарушэнняў дадзеная грамадзянка прыцягнутая да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафу ў памеры 1.440.000 беларускіх рублёў з канфіскацыяй самагону і самагоннага апарата, а мясцовы жыхар, які набыў бутэльку «зялёнага змея», прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафу ў памеры 360.000 беларускіх рублёў.

У верасні бягучага года ўчастковымі інспектарамі ААПП Глыбоцкага РАУС выяўлены факт рэалізацыі літра самагонкі жыхаром в. Азярцы мясцоваму жыхару за 200.000 беларускіх рублёў. У ходзе агляду жылля выяўлена і канфіскавана 7.5 літра самагонкі, 110 літраў самагоннай брагі і самагонны апарат. Па сукупнасці адміністрацыйных правапарушэнняў дадзены грамадзянін прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафу ў памеры 1.800.000 беларускіх рублёў з канфіскацыяй самагонкі, самагоннай брагі і самагоннага апарата, а пакупнік самагонкі прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафу ў памеры 540.000 беларускіх рублёў.

Таксама ўчастковымі інспектарамі міліцыі ААПП Глыбоцкага РАУС і інспектарамі ДПС АДАІ у бягучым годзе былі выяўлены факты незаконнага перамяшчэння і захоўвання вадкасці з утрыманнем спірту. У адным выпадку жыхарка в. Станулі за перавозку па тэрыторыі Рэспублікі Беларусь і захоўвання па месцы жыхарства 18 літраў спіртазмяшчальнай вадкасці па сукупнасці адміністрацыйных правапарушэнняў прыцягнутая да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафу ў памеры 7.200.000 беларускіх рублёў з канфіскацыяй спіртазмяшчальнай вадкасці. У іншым выпадку, жыхарка Астравецкага раёна Гродзенскай вобласці за перавозку па тэрыторыі Рэспублікі Беларусь на асабістым аўтамабілі 250 літраў спіртазмяшчальнай вадкасці прыцягнутая да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафу ў памеры 2.700.000 беларускіх рублёў з канфіскацыяй спіртазмяшчальнай вадкасці.

**Калі Вам што-небудзь вядома пра факты незаконнага вырабу і рэалізацыі алкагольнай прадукцыі - паведаміце па тэлефонах АДС Глыбоцкага РАУС – 102, 2-27-02, 597-21-74 МТС; 314-89-02 Velcom або УВД Віцебскага аблвыканкама – (8-0212) 23-81-73, 511-22-16 МТС; 314-08-63 Velcom.**





# Самавольна нарыхтоўваць дровы забараняецца

**З надыходам халадоў штогод востра паўстае пытанне аб нарыхтоўцы дроў насельніцтвам на землях сельскагаспадарчага прызначэння.**

■ **В. Е. Катовіч**, *дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

На працягу многіх гадоў жыхары сельскай мясцовасці нарыхтоўвалі дровы ў кустах, прылеглых да населеных пунктаў, на палях, каналах і г.д., ніякіх дазвольных дакументаў ніхто не патрабаваў, ды і ў заканадаўчым парадку дадзенае пытанне адрэгулявана не было, гэтым і карысталіся многія нядобрасумленныя грамадзяне, высякаючы ўсё вакол, закідваючы адходамі высечак кусты, лес, выразаючы лепшую драўніну ў асноўным для продажу.

З уступленнем у дзеянне Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 7 траўня 2007 года №214 «Аб некаторых мерах па ўдасканаленні дзейнасці ў сферы лясной гаспадаркі» парадак нарыхтоўкі і водпуску драўніны па ордэрах на землях сельскагаспадарчага прызначэння быў выразна адрэгуляваны.

У адпаведнасці з пунктам 2 «Правіл водпуску драўніны на пні і яе нарыхтоўкі ў лясах Рэспублікі Беларусь» (далей – Правілы), зацверджаных Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 07.05.2007 №214 у дачыненні драўнянахмызняковай расліннасці (насаджэнняў), якая не ўваходзіць у лясны фонд, у тым ліку размешчанай на землях сельскагаспадарчага прызначэння, сапраўдныя Правілы прымяняюцца ў поўным аб'ёме.

Дазвольным дакументам на права нарыхтоўкі драўніны з'яўляецца лесасечны білет (ордэр на дробны водпуск драўніны на пні (далей – ордэр)).

Згодна з пунктам 38 Правілаў:

«Лесасечны білет (ордэр) на нарыхтоўку драўніны штогод выдаецца лесакарыстальнікам юрыдычнай асобай, якая вядзе лясную гаспадарку (лягсасам), на канкрэтную лесасеку і з'яўляецца дакументам, які дазваляе лесакарыстальніку ажыццяўляць нарыхтоўку драўніны ў паказаным у гэтым білеце (ордэры) аб'ёме ў адпаведнасці з тэхнічнымі нарматыўнымі прававымі актамі і ва ўстаноўлены тэрмін, а таксама прадастаўляюць правы фізічным асобам, якія нарыхтавалі драўніну, на яе вывазку.

Лесасечныя білеты (ордэры) на нарыхтоўку драўніны выдаюцца лесакарыстальнікам юрыдычнымі асобамі, якія вядуць лясную гаспадарку (лягсасам), на працягу года ў парадку, устаноўленым Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь, калі іншае не вызначана Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

Лесасечныя білеты (ордэры) на права выдалення (нарыхтоўкі) драўняна-хмызняковай расліннасці (насаджэнняў), якая не ўваходзіць у лясны фонд, у тым ліку на землях сельскагаспадарчага прызначэння, выдаюцца лесакарыстальнікам (мясцовым гаспадаркам) юрыдычнымі асобамі, якія вядуць лясную гаспадарку, на падставе рашэнняў мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў.

Рашэнне мясцовага выканаўчага і распарадчага органа аб выдаленні (нарыхтоўцы) драўнянахмызняковай расліннасці, якая не ўваходзіць у лясны фонд, у тым ліку на землях сельскагаспадарчага прызначэння прымаецца па ўзгадненні з тэрытарыяльнымі органамі Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя з улікам заключэння спецыяльна ўпаўнаважанага мясцовым выканаўчым і распарадчым органам юрыдычнай асобы ў галіне азелянення ».

Пасля атрымання прынятага рашэння аб выдаленні (нарыхтоўцы) драўнянахмызняковай расліннасці, якая не ўваходзіць у лясны фонд, у тым ліку на землях сельскагаспадарчага прызначэння, землекарыстальнік звяртаецца да юрыдычнай асобы, якая вядзе лясную гаспадарку (лягсаса), для выдачы дазвольнага дакумента (лесасечнага білета, ордэра) на нарыхтоўку драўніны.

Ордэры выдаюцца лесакарыстальнікам ляснічым толькі на тую драўніну, якая па лесасечным білеце, аформленым лягсасам на лясніцтва, выдзелена для правядзення дробнай рэалізацыі драўніны па ордэрах.

Памер дробнага водпуску драўніны на пні па кожнаму ордэру не павінен перавышаць 50 кубічных метраў.

**За атрыманнем дазволу на высечку драўнянахмызняковай расліннасці на землях сельгаспрызначэння, арганізацыя альбо гаспадарка, на чыёй зямлі плануецца высечка, павінна звярнуцца з заявай у лягсас і атрымаць лесасечны білет, работнікі лягсаса абавязаны зрабіць адвод месца высечкі і выдаць лесасечны білет, ордэр на дробны водпуск драўніны на корані, а таксама растлумачыць увесь парадак нарыхтоўкі драўніны.**

Так як юрыдычная асоба, якая вядзе лясную гаспадарку, нясе пэўныя затраты на адвод і таксацыю лесасек, то паміж ім і землекарыстальнікам дадзены від паслуг можа праводзіцца на дамоўных умовах.

## МНС інфармуе

**на 17.11.2015 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 748;
Гібель людзей – 79, з іх 3 дзяцей;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 29;
Гібель людзей – 2, з іх дзяцей няма;
Урон –591,1 млн. руб.

